XVIII 10773

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ДЭКАДНІК



СЭКТАРУ КНІГАГАНДЛЮ ДзВБ

№ 14 (20) | РАССЫЛАЕЦЦА ПА ЎСЕЙ СЕЦІ КНІГАГАНДЛЮ ПА РАЗЬВЕРСТЦЫ | АДРАС РЭДАКЦЫІ — Менск, Пляц Волі 5, тэл. № 7—41 | 30 чэрвеня 1932 г.

## АГРОЗООТЭХНІЧНУЮ ЛІТАРАТУРУ— НА СЛУЖБУ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАМУ ЗЕМЛЯРОБСТВУ!

У мэтах мобілізацыі шырокіх мас рабочых саўгасаў, МТС і колгасьнікаў вакол задач па аўладаньні агрозоотэхнікай, ЦК КП(б)Б абвесьціў з 1-га чэрвеня г.г. **усебеларускі агрозоотэхпаход**, які праводзіцца пад лёзунгам: **„перадавую агротэхніку на службу земляробству!“**

У час гэтага „Паходу“ павінны быць мобілізаваны ўсе мэтоды і формы масавай работы для ўкараненьня агротэхнічных ведаў ва ўсе працэсы саўгасна-калгаснай вытворчасьці.

Вялікую ролю і значэньне ў гэтым „Паходзе“ мае масавая агрозоотэхнічная кніга—лепшы праваднік агротэхведаў у масы.

Перад усей сыстэмай савецкага кнігагандлю гэтым самым пастаўлена задача зрабіць масавую кнігу ўсюды дапаможнікам партыі ў пасьпяховым правядзеньні агрозоопаходу.

Для выкананьня гэтай адказнай і ганаровай задачы павінна быць мобілізавана ўся грамадзкасьць кнігагандлёвых працаўнікоў. Кожны філіял, кожная райкнігарня павінна зараз-жа ўключыцца **ў агрозоотэхпаход**, выпрацаваўшы на эканомнарадзе і агульным сходзе свайго колектыву плян конкрэтных мерапрыёмстваў па прасоўваньню ў масы агрозоотэхнічнай літаратуру. Гэты плян павінна увязаць з агульным раённым плянам **агрозоотэхпаходу**, ён павінен стаць неад'емлемай і не малаважнай часткай яго.

Амаль што ўсе агульныя мерапрыемствы, намечаныя **агрозоотэхпаходам**, напраўлены да пашырэньня агрозоотэхнічных ведаў у масы, сапраўджваюцца рэкомэндацыяй альбо прасоўваньням адпаведнай літаратуры. Ва ўсіх маршрутах „Паходу“ кнігарня пагэтаму можа і павінна прынімаць актыўны ўдзел.

Ні водны філіял, ні водная кнігарня не павінна застацца па-за гэтае кампаніі, якая мая важнае політычнае значэньне. Кожны кніжны працаўнік павінен быць актыўным ўдзельнікам ў правядзеньні агрозоотэхпаходу.

## ЗАГАД № 32

### ПА СЭКТАРЫ КНІГАГАНДЛЮ ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ.

(АБ УКЛЮЧЭНЬНІ ВА ЎСЕБЕЛАРУСКІ АГРОЗООТЭХПАХОД.)

§ 1.

Усім філіялам і райкнігарням Сэктару Кнігагандлю ДВБ зараз-жа уключыцца ў праваdзімы **ЦК КП(б)Б УСЕБЕЛАРУСКІ АГРОЗООТЭХПАХОД**, забясьпечыўшы ўсемернае і сваячасовае абслугоўваньне ўсіх маршрутаў „Паходу“ неабходнай агразоотэхнічнай літаратурай пад адказнасьць загадчыкаў філіялаў і райкнігарань.

§ 2.

Апарацыйнай Частцы і Цэнтральным Базам забясьпечыць адгрузку маючайся агрозоотэхлітаратуры не пазьней двух дзён пасьля атрыманьня заказаў-заявак, **НАВІНАК** Сельска-гаспадарчага сэктару ДВБ (па разнарадцы)—ня пазьней 2-х дзён пасьля іх паступленьня з друкарні.

Адказныя—т. т. **ПЕРАЛЬМАН** і **ПЯТКЕВІЧ**.

§ 3.

Асартымэнтнай Групе Сэктару Кнігагандлю сваячасова распрацоўваць і дасылаць па сеці тэматычныя сьпісы с-г літаратуры і сьпісы для камплектаваньня спэцыялізаваных с-г масавых біблітэчак. Сьпісы зьмяшчаць сыстэматычна ва ўсіх чарговых нумарах „Дэкадніку“.

Адказны—т. **ШЛОСБЭРГ**.

§ 4.

Філіялам і кнігарням ДВБ паведамляць Сэктар Кнігагандлю аб ходзе Агрозоотэхпаходу 2-га і 16-га кожнага месяцу.

Дырэктар Сэктару Кнігагандлю ДВБ
КЛЕЙНЭР.

*Менск, 28-VI-32 г.*

---

„Сваім актыўным ўдзелам у гэтым паходзе кніжныя працаўнікі павінны даказаць, што яны здольны пераключыцца на новыя мэтоды работы ў адпаведнасьці з пастановай партыі аб выдавецкай справе і кнігагандлі, што яны сапраўды зьяўляюцца чырвонымі кнігарамі— актыўнымі працаўнікамі савецкага культурнага кнігагандлю.

Разгортваньнем масавай працы, мэтодам **соцспаборніцтва і ўдарніцтва** працаўнікі савецкага кнігагандлю здолеюць дапамагчы партыі выканаць **агрозоотэхпаходам** канкрэтныя задачы „па лепшым доглядзе ўраджаю, жывёлы, па падрыхтоўцы і правядзеньні асеньняй сяўбы і правядзеньня прапалочнай і уборачнай кампаніі“.

(з Пастановы ЦК КП(б)Б.)

## УЗОРНЫ МАРШРУТ

### па ўключэньню раённай кнігарні ў агрозоотэхпаход

1. Перагляд ўсяго асортымэнту агрозоотэх-літаратуры і сваячасовае папаўненьне яго на падставе вывучэньня вытворчага профілю паасобных пунктаў абслугоўваемага раёну (літ. па паляводзтву, содаводзтву, жывёлагадоўлі і г. д.)
2. Разам з Райколгассаюзам і Райземаддзелам праверыць становішча біблітэк ва ўсіх саўгасах, колгасах і МТС, укамплектаваўшы і папоўніўшы іх літаратурай, якая адпавядае спэцыялізацыі данай гаспадаркі.
3. У буйнейшых саўгасах і колгасах раёну адчыніць кніжныя кіёскі; наладзіць прадажу масавай с.-г. літаратуры праз школы і кнігаНош.
4. Сваячасова забясьпечыць і сыстэматычна папаўняць адпаведнай літаратурай і нагляднымі дапаможнікамі дамы і габінэты Агрозоотэхнікі, якія будуць створаны у час „Паходу“ ў кожным раёне.
5. Забясьпечыць неабходнай колькасьцю адпаведнай с-г. і інш. масавай літаратуры агітфурманкі, якія напраўляюцца на раён, згодна маршруту Агрозоотэхпаходу.
6. Арганізаваць масавы паказ агрозоотэхнічнай літаратуры, для чаго стварыць кніжныя выстаўкі і вітрыны ў рабочых клюбах, хатахчытальнях, пры кіёсках і г. д.
7. Забясьпечыць адпаведнымі падручнікамі спэцыялізаваныя агрозоотэхнічныя гурткі, якія у час „Паходу“ будуць арганізаваны ў кожным саўгасе і колгасе.
8. Папоўніць асортымэнт кнігарні папулярнай масавай агрозоотэхнічнай, літаратуры для малапісьменных з якімі ва ўсіх школах у час „Паходу“ будуць праводзіцца агрозоотэхнічныя гадзіны.
9. Шырока скарыстаць раённы друк і радыё для папулярызацыі агрозоотэхнічнай літаратуры на працягу ўсяго „Паходу“.

---

Наступны нумар „Дэкадніку“ будзе прысьвечан пытаньню аб падручніках.

## РЫХТУЙЦЕСЯ ДА ДНЮ 12-АЙ ГАДАВІНЫ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСІ АД БЕЛАПАЛЯКАЎ!

### (1920—11/VII—1932 г.)

Надыходзіць дзень 11 ліпеня — дзень сьвята 12-ай гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Пэрыяд, застаўшыйся да гэтага дню, павінен быць скарыстаны кнігарнямі, усімі кніжнымі працаўнікамі для падрыхтоўкі да максымальнага прасоўваньня палітмасавай кнігі да кожнага рабочага і колгасьніка. Уся кнігагандлёвая сетка, як Сэктару ДВБ, таксама і БАКТ'а і РСС, павінна мабілізавацца на лепшы ўдзел ў гэтае кампаніі.

Усім кнігарням неабходна пачаць падрыхтоўку зараз-жа з перагляду маючагася асортымэнту і папаўненьня яго нехапаючымі назвамі. Нельга абмежавацца прасоўваньнем толькі той літаратуры, якая асьвятляе гісторыю вызваленьня Беларусі ад белапалякаў; неабходна ў гэтыя дні актывізаваць прасоўваньне і кнігі, паказваючай гэроічную барацьбу пролетарыяту, пад кіраўніцтва камуністычнай партыі, за пабудову соцыялізму ў нашай краіне, за завяршэньне першай пяцігодкі у чатыры гады. Акрамя літаратуры па рэкомэндацыйных сьпісах, якія зьмешчаны ў гэтым нумары „Дэкадніку", работнікі на мясцох павінны рэкамандаваць таксама і тыя адпавядаючыя кнігі, якія на цэнтральных базах ня маюцца, але-ж маюцца ў кнігарнях на мясцох. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць рабоце над кнігай (польскай), яўрэйскай і інш.).

У справе прасоўваньня літаратуры да дню 11/VII трэба разгарнуць усе віды масавай работы з кнігай. Прапануем нашым кнігарням правесьці наступны шэраг мерапрыемстваў. (Лічым сьпіс іх ніжэй, паказаны мінімальным; асобныя кнігарні і колектывы кніжнікаў бязумоўна змогуць пашырыць іх у адпаведнасьці з умовамі працы на мясцох):

1. Сьпіс літаратуры да дню 11/VII трэба зьмясьціць у сваёй раённай газэце, у шматтыражках буйных прадпрыемстваў.

2. Для гэтай-жа мэты шырока скарыстаць радыё.

3. Аднавіць вітрыны адпаведнай літаратурай і лёзунгамі. (У апошні час вітрына зьяўляецца ў шэрагу кнігарань забітым вучасткам працы; яна дзе-нідзе нагадвае больш склад чым мейсца для паказу кнігі; з гэтакай недаацэнкай ролі вітрыны трэба пакончыць).

4. У мясцох натоўпу працоўнага люду (Райзо, Райколгассаюз, рабочыя клюбы і г.д.) неабходна стварыць вітрыны-шафы для сталага паказу адпаведнае масавае літаратуры (з паказаньнем, дзе як яе можна набыць).

5. Асабліва сур'ёзную ўвагу неабходна зьвярнуць усім кнігарням на абслугоўваньне адпаведнай масавай кнігай колгасна-саўгасных базараў. (Пры гэтым трэба пільна сачыць, бак на гэтыя базары ня вынасілася літаратура ўстарэлая).

6. У самы дзень сьвята (11/VII), у час дэманстрацыі арганізаваць масавую прадажу кніжок сярод дэмонструючых працоўных (сумесна з РК ЛКСМБ).

7. Раённыя кнігарні павінны ў падрыхтоўчы пэрыяд правесьці работу па ўкамплектаваньню адпаведнай масавай літаратурай і лёзунгамі кніжных паліц Сельпо, а таксама арганізаваць кніжныя паліцы там, дзе яны адсутнічаюць.

---

Перад філіяламі і Райкнігарнямі у час падрыхтоўкі і правядзеньня дню 11/VII, стаіць задача ўзмацненьня рэалізацыі літаратуры і зьніжэньня наяўных фондаў.

Скарыстоўваючы вопыт масавай работы мінулых кампаній, у штодзеннай сувязі з грамадзкімі арганізацыямі, шляхам мабілізацыі ўвагі ўсіх кніжных работнікаў, мэтодам **соцспаборніцтва і ўдарніцтва,** мы гэтую задачу выканаць здолеем.

*М. Г.*

---



## СЬПІС літаратуры да 12-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

Боген Д.—Заходняя Беларусь пад крывавым бізуном польскіх окупантаў. ц. 3 к.

Якаўлеў Л.—Заходняя Беларусь. ц. 35 к.

Альшэўскі.—Інтэрвэнцыяніцкі твар беларускага нацыянал-фашызму ц. 01 к.

Ленскі Ю.—Чацьвёрты год крызісу ў Польшчы. ц. 20 кап.

Гвяздоўскі С.—Соцыял-фашысты перад фашысцкім судом. ц. 15 коп.

Гурнік—Пятля на шыі польскага гарняка сьціскаецца. ц. 45 к.

Хітараў Р.—супроць вайны і фашызму. ц. 15 кап.

Літвінаў М.—Народы чакаюць раззбраеньня—(прамовы т. Літвінава на Жэнэўскай конфэрэнцыі па раззбраеньні 11, 21 і 25-II-1932 г.) ц. 10 к.

Голуб'еў А.—М. В. Фрунзэ пра характар будучай вайны. ц. 80 к.

Рэзолюцыі XVII усесаюзнай парткonфэрэнцыі. ц. 15 кап.

Справаздача Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б. (Даклад і заключнае слова сакратара ЦК КП(б)Б т. Шаранговіча.) ц. 22 к.

Рэзолюцыі XIV зьезду КП(б)Б. ц. 20 к.

Орджонікідзэ С.—Вынікі разьвіцьця прамысловасьці за 1931 г. і задачы 1932 г. (даклад на XVII конфэрэнцыі УсеКП(б)Б ц. 22 к.

Молатаў В., Куйбышаў В.—Аб другой пяцігодцы. (Даклад на XVII конфэрэнцыі УсеКП(б). ц. 37 к.

Дырэктывы да складаньня другога пяцігадовага пляну БССР (трэба чытаць СССР). ц. 30 кап.

Аб другой пяцігодцы БССР (пастанова Савету Народных Камісараў БССР і Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б ц. 7 кап.

Лаўэр Г.—Вузлавыя вучасткі соцыялістычнай прамысловасьці. ц. 25 к.

Лейбман Я.—Шэсьць умоў т. Сталіна—гарантыя перамогі. (Для ўсёй комсамольскай палітсеткі). ц. 20 кап.

Аб культурным будаўніцтве БССР.

Нацыянальная палітыка і барацьба на два фронты за ленінскую лінію ў нацыянальным пытаньні. ц. 35 кап.

Сталін.—Выбраныя работы па нацпытаньні. ц. 60 кап.

Сянькевіч А.—За ленінскую лінію ў нацыянальнай палітыцы. ц. 50 кап.

Зюзькоў А.—Крывавы шлях беларускай нацдэмократыі. ц. 35 к.

Супроць беларускага контррэволюцыйнага нацдэмократызму. ц. 50 кап.

Дырэктывы партыі па організацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.

Кудзінаў С.—Новы закон аб с.-г. падатку на 1932 г. Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і разгортваньне колгаснага гандлю. ц 20 кап.

Міцькоў.—6 умоў т. Сталіна ў колгасную вытворчасьць. ц. 30 к.

